Педагагічная майстэрня

# Каб не плакалі дрэвы

***Гэта было 1 верасня. Незвычайнае заданне для першага дня заняткаў: напісаць сачыненне-разважанне "А рабінка плакала..." "Матэрыял знойдзеце каля спартыўнай пляцоўкі школы", — сказала я. Сапраўды, тут расла прыгожая рабінка, усыпаная чырвонымі ягадамі. А побач ляжаў вялікі сук. Белая рана блішчэла на сонцы. Яна была мокрая — рабінка плакала. Хто зрабіў гэта? У такі святочны дзень, калі ўсе радаваліся, весяліліся, рабінка плакала. Чаму ж плачуць дрэвы ўвесну, улетку, увосень? Чаму плача наша зямля?***

Сёння як ніколі мы павінны гаварыць аб прыродзе, павінны дбаць аб выратаванні жыцця на зямлі.

Значную работу ў гэтым накірунку праводзяць настаўнікі беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 3 Вілейкі. Таму спрыяе і праграма. Вывучаючы фальклор, мы сустракаемся ў ім з чулымі адносінамі чалавека да прыроды, і яны дапамагаюць нам перамагаць зло.

Чалавек паступова пачаў адчуваць сябе гаспадаром прыроды, па-спажывецку адносіцца да яе. Пра гэта пісаў і Я.Купала ў паэме "Адвечная песня". Паэт хоча бачыць чалавека за "усіх чыста мудрэй". Сёння, калі экалагічныя праблемы набываюць глабальны характар, твор гучыць вельмі надзённа.

Сучасная беларуская літаратура даводзіць, што прырода ўзбагачае чалавека духоўна. Прыгажосць роднай прыроды апісвае Я.Колас у апавяданні "У старых дубах", у вершах "Ручэй", "На рэчцы", у цудоўнай паэме "Новая зямля", Ул.Караткевіч — у апавяданні "Бурык", Я.Купала — у вершы "Адцвітанне", М.Багдановіч — у выдатнай прыродаапісальнай лірыцы. Ідэя дабрыні і міласэрнасці ў адносінах да прыроды гучыць у апавяданні Г.Далідовіча "Губаты". Наогул праграма змяшчае цудоўны матэрыял, які дапамагае усвядоміць, што нельга не любіць прыроду. А любіць яе — значыць любіць родную зямлю, быць адказным за свае паводзіны на яе ўлонні.

Ул.Караткевіч назваў Беларусь "зямлёй пад белымі крыламі". Так, бусел — сімвал нашай рэспублікі. Для белага бусла Беларусь — самы мілы і любы куточак. Больш за трэць іх гняздзіцца ў нас. Ці не вымруць яны, калі амаль усе балоты асушаны, калі паветра атручана?

Чытаеш твор Я.Коласа "Песня ляснога жаваранка" — і міжволі думаеш, што вельмі рэдка можна чуць цяпер песню гэтай невялічкай, з цёмнымі крапінкамі птушачкі, бо не заўсёды яна можа напіцца чыстай вады з травінкі.

Ёсць у П.Панчанкі цікавы верш "Не люблю я слова "пакарыцель..."", дзе паэт рашуча адхіляе пастулат, што чалавек — магутны ўладар прыроды. Не, ён бывае часта пазбаўлены душы, сардэчнасці, добразычлівасці ў адносінах да яе. Сёння чалавек губляе пачуццё адказнасці перад сваёй маці-прыродай. Паэт бачыць прычыну ў тэхніка-эканамічных дасягненнях. І не загадвае, ён просіць:

Акіяны, космас вывучайце
З добрым сэрцам,
А яшчэ прашу:
— Пакідайце і буслу,
і чайцы
Больш вады і неба на душу.

Цікавыя творы знаходзім у В.Зуёнка, П.Макаля, Г.Бураўкіна, Р.Барадулі, С.Законнікава і іншых. Іх лірычныя героі шукаюць аднадумцаў сярод птушак, дрэў, траў, як знаходзілі іх некалі казачныя героі, ратуючыся ад злых сіл. Адчуваецца заклапочанасць тым, што людзі развучыліся слухаць і разумець галасы прыроды, бо адсутнасць такога ўзаемаразумення людзей і прыроды прыводзіць да цяжкіх вынікаў.

Новую старонку ў літаратуры нарадзіла чарнобыльская тэма. Створана шматжанравая кніга "Прайсці праз зону". Боль, туга і трывожны роздум адчуваюцца ў творах усіх пісьменнікаў — аўтараў кнігі.

Кніга "След чорнага ветру" напісана дзецьмі таго пакалення, якое дапусціла аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Як вымераць гора людзей, якія пакінулі родныя вёскі, магілы родных, сцежкі дзяцінства? Багаты палескі край апусцеў, пустазеллем пакрыліся палеткі, птушкі не радуюць чалавечыя душы. Маштабы экалагічнай катастрофы трагічна гучаць у словах П.Панчанкі:

Тут пахне Хірасімай,
Няма слядоў буслiных
І ласіных.
Над Прыпяццю —
Нябачны смерці след.

Нам, дзецям нашым, унукам, праўнукам, жыць і хадзіць па прамянях радыяцыі. І як бы мы ні жадалі забыцца пра Чарнобыль, ён напамінае аб сабе свежымі магіламі, пагражае, лежачы пад нашымі нагамі пляйстарамі (г.зн. плямамі) радыеактыўнага выкіду.

Маральны змест учынкаў чалавека, ролю матываў у маральным выбары, беражлівых адносін да прыроды раскрывае А.Жук у аповесці "Паляванне на апошняга жураўля", В.Казько — у аповесці "Нявестка", І.Пташнікаў — у рамане "Мсціжы" і інш.

Наогул тэма духоўнага вяртання чалавека да сваіх вытокаў стала актуальнай. На ўроках, у пазакласнай рабоце настаўнікі мовы і літаратуры імкнуцца навучыць дзяцей адчуваць боль за родную зямлю, за кожнае дрэўца, якое параніў чалавек, за вытаптаныя, забруджаныя палянкі, за азёры, што пакрыўдзілі раўнадушныя, несумленныя людзі.

Так, робіцца нямала ў гэтым накірунку. Але хто ж тады пакрыўдзіў рабінку ў такі святочны дзень? Хто ж выразае на дрэвах свае аўтографы? Хто ж забруджвае дубраўку, калі пасля "адпачынку" трэба арганізоўваць яе чыстку? Хто выкідвае смецце пад вокны суседзяў?

Здаецца мне, што вялікую справу па экалагічным выхаванні павінна рабіць не толькі школа, але і сям'я, грамадскасць, бо пейзаж роднага краю — гэта часцінка Радзімы. Нельга забываць, што зямля без гаспадара — круглая сірата. Чалавек павінен разумець гэта. Здаўна павялося, што людзі клапоцяцца пра стан прыроды, пра ахову нашага зялёнага сябра-лесу, пра чысціню рэк і азёр, пра ахову жывёл і птушак. "На зямлі госцем добра жыць, а гаспадаром — яшчэ лепш", — вучыць народная мудрасць. Чалавек-гаспадар не павінен дапускаць, каб плакалі дрэвы, каб перасыхалі крыніцы, каб квітнеючыя мясціны ператвараліся ў пусткі. Харaство прыроды павінна радаваць нас не толькі сёння, але і нашых нашчадкаў. Прыродзе сёння цяжка, таму яна плача. Абараніць яе — наша задача, бо, абараняючы прыроду, мы абараняем жыццё, абараняем Радзіму.

**Антаніна ГАРЧАКОВА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 3 Вілейкі.**

# "Школа, у якой я жыву..."

Сем год таму, калі Ірына Фёдараўна Нікіфаравец, былая настаўніца рускай мовы і літаратуры, стала намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце, аб узроўні выкладання ў школе гуманітарных дысцыплін загаварылі па ўсёй вобласці. Сёння І.Ф.Нікіфаравец — дырэктар сярэдняй школы № 20 Брэста. Без сумнення, усім 1152 вучням установы пашанцавала з кіраўніком, абраным на пасаду тры гады таму ўсёй школай.

Пасля ананімнага анкетавання школьнікаў у гэтым годзе высветлілася, што самым значным для іх прадметам з'яўляецца менавіта руская мова і літаратура, а кантрольныя зрэзы паказалі, што больш чым у 70 працэнтаў хлопчыкаў і дзяўчынак добрыя вынікі па гэтай дысцыпліне. Гэта лепшае сведчанне выдатна наладжанай у школе работы кафедры моваведаў.

Жадаючых вучыцца ў гэтай навучальнай установе вельмі многа, школа ледзь усіх змяшчае. Падрыхтоўчы і першы класы вучацца ў дзіцячым садку. Многія здзіўляюцца, маўляў, у іншых школах не хапае дзяцей, а тут — наадварот. Жартам "спісваюць" адказ на суседні радзільны дом — усе народжаныя немаўляты абавязкова ідуць у суседнюю школу № 20. Хаця, відаць, усё тлумачыцца стаўленнем да сваёй работы дырэктара, якога, як і школу, дзеці проста любяць. "У школе я жыву, толькі часам ад'язджаю дамоў..." — гаворыць Ірына Фёдараўна.

НА ЗДЫМКАХ: пасяджэнне кафедры рускай мовы і літаратуры; І.Ф.Нікіфаравец — дырэктар Брэсцкай сярэдняй школы № 20.

**Вольга ДУБОВІК.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Імправізаваная прэс-канферэнцыя

# Якi прадмет самы важны

***Сёння ў школьную праграму ўваходзяць каля дваццаці школьных прадметаў. Вучні падзяляюць іх на галоўныя і другарадныя. З некаторымі звязваюць сваё жыццё, а некаторыя забываюць, як цяжкі ўспамін пра школу. А што думаюць настаўнікі-прадметнікі пра тое, ці спатрэбяцца веды па іх прадмеце вучням у будучым?***

**Святлана Мікалаеўна КРАЎЧАНКА, настаўніца матэматыкі сярэдняй школы № 74 Мінска:**

— У сучасным свеце матэматыка — асноўны прадмет, таму што яна не проста вучыць лічыць, рашаць задачы. Матэматыка — гэта лад мыслення, логіка, уменне даказваць, пераадольваць сябе. У век камп'ютэрызацыі кожны чалавек павінен авалодваць фундаментальнымі ведамі. На жаль, матэматыка прадстаўлена ў школе невялікай колькасцю гадзін. Іх павінна быць больш, таму што матэматыка — гэта неабсяжны і прыгожы свет, які неабходна пазнаць, каб спасцігнуць большае.

**Галіна Антонаўна ШАБАН, настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 74 Мінска:**

— Лічу надзвычай важным прадметам у школе беларускую мову і літаратуру. Яго вывучэнне абавязвае чалавека, які жыве ў гэтай старонцы, паважаць родную мову, сваіх бацькоў, сваю краіну і сябе. Мае старшакласнікі гэта разумеюць, і большасць з іх пры паступленні ў навучальныя ўстановы выбірае беларускую мову. Урокі мовы і літаратуры — урокі чалавечнасці, дабрыні, спагады. Яны выхоўваюць логіку разважання, уменне прыгожа выказвацца. Урокі літаратуры выхоўваюць чалавека добрага, сумленнага, чыстага, з высокім інтэлектам.

**Вольга Уладзіміраўна ПУЧКОЎСКАЯ, настаўніца біялогіі сярэдняй школы № 30 Мінска:**

— Найперш, я звяртаю ўвагу вучняў на анатомію чалавека. Яны павінны ведаць, дзе знаходзіцца які орган, якую функцыю ён выконвае. Зважаем і на тое, што рабіць у экстрэмальных выпадках. Затым вывучаем заалогію і батаніку. Мы жывём сярод прыроды, таму кожны чалавек павінен ведаць раслінны і жывёльны свет.

**Таццяна Мікалаеўна РАБІНОЎСКАЯ, настаўніца геаграфіі сярэдняй школы № 30 Мінска:**

— Геаграфія мае гэткае ж вялікае значэнне, як і гісторыя ці біялогія. Сёння асаблівая ўвага надаецца развіццю эканомікі. І вось у 9-м класе вывучаюцца некаторыя яе пытанні, якія з'яўляюцца цяпер актуальнымі: пераход да рыначных адносін, новыя формы гаспадарання (біржа, банк, бізнес). Канешне, геаграфія мае вялікае значэнне. Я думаю, што вучні памыляюцца, лічачы некаторыя прадметы ўвогуле непатрэбнымі.

**Ларыса Міхайлаўна ПЛЫШЭЎСКАЯ, настаўніца гісторыі сярэдняй школы № 74 Мінска:**

— Лічу, што прадмет вельмі важны, паколькі з'яўляецца пазнавальным: дзеці знаёмяцца з гісторыяй не толькі нашай, але і іншых краін. Патрэбны таксама прадмет "Чалавек і грамадства". Вучням падабаецца выказваць свой пункт гледжання. Ідучы ў дарослы свет, яны павінны ведаць, якімі палітычнымі правамі мы валодаем. Вывучаецца Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Дзеці павінны быць палітычна адукаванымі.

**Святлана Уладзіміраўна БЯРОЗКА, настаўніца хіміі і прадмета "Сусвет" сярэдняй школы № 57 Мінска:**

— Пачну з прадмета "Сусвет", які зусім нядаўна быў уведзены ў школах. Матэрыял гэтага прадмета неабходна добра прадумаць, каб растлумачыць дзецям. Ён вельмі патрэбны, бо з'яўляецца курсам падрыхтоўкі да ўспрымання такіх дысцыплін, як фізіка, хімія, біялогія, геаграфія, астраномія. "Сусвет" дапамагае ў фарміраванні ведаў пра жывую прыроду.

Хімія практычнае значэнне мае ў паўсядзённым жыцці, бо мы вывучаем многія рэчывы, якімі карыстаюцца ў побыце, напрыклад, кіслоты (лімонная, воцатная), парфумерна-касметычныя, мыйныя сродкі. Канешне, формулы ў побыце не патрэбны, але аб працаванні многіх працэсаў ведаць неабходна. У апошні час вялікае значэнне надаецца экалагічным аспектам. Напрыклад, вывучаючы вугляводы, мы гаворым пра тое, што метан — газ, чым ён небяспечны, чым шкодны. Вывучаючы спірты, праводзім антыалкагольнае выхаванне.

**Вольга Рыгораўна ЮГАН, настаўніца інфарматыкі сярэдняй школы № 57 Мінска:**

— Веданне камп'ютэраў неабходна, і сёння кожны да гэтага імкнецца. У дзяцей узнік інтарэс да гэтага прадмета. Некаторыя, можа, слаба паспяваюць па іншых прадметах, затое паспяхова займаюцца па інфарматыцы.

**Соф'я Міхайлаўна СІДАРЭНКА, настаўніца англійскай мовы сярэдняй школы № 57 Мінска:**

— Цяжка ўявіць сабе жыццё без замежнай мовы. Калі пачытаць газетныя аб'явы, то ўсюды патрэбна замежная мова. Але для таго каб даць дзецям глыбокія веды, дзвюх гадзін у тыдзень недастаткова, неабходна як мінімум тры-чатыры. Пры сучасных патрабаваннях да спецыялістаў замежнай мовы неабходна ўдзяляць ёй паўсядзённую ўвагу.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Конкурсы

# У чым праяўляецца індывідуальнасць

***Спрадвеку ў народзе гаварылі: "Дзеля добрага свята трэба шмат папрацаваць". Значыць, вынік працы — рэч, прадмет, аб'ект — прыносіў і прыносіць людзям радасць. Тую радасць, якая ў сучасным грамадстве мае рэальны сэнс, якая ствараецца творчай актыўнасцю навучэнцаў у прафесійна-тэхнічных навучальных установах.***

Працэс творчасці ў асноўных рысах адзіны для любой чалавечай дзейнасці, і ўласцівы ён толькі чалавеку. Усё зробленае людзьмі — вынік творчых намаганняў. Гэта ж і свядомая актыўная дзейнасць, накіраваная на пазнанне і пераўтварэнне рэчаіснасці. Працэс творчасці ўключае дзейнасць інтэлектуальную па асэнсаванні жыцця, падачы ідэй і дзейнасць фізічную — па ўкараненні іх у жыццё. Калі мы гаворым аб прафесійнай падрыхтоўцы навучэнцаў, то маем на ўвазе ўмовы, набліжаныя да вытворчых. І тады творчасць на вытворчасці непарыўна будзе звязана з вывучэннем існуючых тэхналагічных працэсаў, падачай ідэй па іх рацыяналізацыі.

Для паспяховага ўдзелу ў працэсе творчасці ў выпускніка ПТВ павінны быць развіты такія якасці, як фантазія, нешаблоннасць мыслення, крытычны погляд на рэчы, уменне абагульняць факты, асэнсоўваць іх і падаваць новыя рашэнні і ідэі, уменне захоўваць веру ў перамогу і сілу духу ў перыяд творчых няўдач. А для развіцця гэтага неабходны пэўныя ўмовы, што ствараюцца пошукам новых актыўных форм навучання і выхавання навучэнцаў педагогамі ў ПТВ. Педагогам неабходна памятаць, што творчасць мае сваёй перадумовай высокае прафесійнае майстэрства. Тварыць — значыць умець у дасканаласці рабіць нешта такое, у чым праяўляюцца індывідуальнасць, канкрэтныя якасці той ці іншай асобы. Узровень працоўных, практычных уменняў і навыкаў у той ці іншай сферы дзейнасці — гэта той рэальны базіс, на якім могуць рэалізоўвацца творчыя здольнасці і прыродныя задаткі чалавека, магчымы сам творчы працэс. Набыццё прафесіі ў ПТВ трэба арганізаваць так, каб усе формы педагагічнага супрацоўніцтва і ўздзеяння выклікалі любоў да будучай прафесіі ў навучэнцаў.

Актывізацыі творчай работы навучэнцаў, развіццю здольнасцяў і ініцыятывы садзейнічаюць абласныя конкурсы прафесійнага майстэрства. Яны ўдала спалучаюць дух спаборніцтва, спартыўны азарт з сур'ёзным імкненнем удасканаліцца ў выбранай прафесіі і дасягнуць высокай кваліфікацыі. Такія конкурсы пераканаўча паказваюць, што асобасныя рэсурсы чалавека актуалізуюцца і ўзмацняюцца на фоне поспеху, а часта і часовага паражэння. Тут і ствараецца сітуацыя, калі аналіз вынікаў дае своеасаблівую ўстаноўку на новы віток спаборнічання, але ўжо з улікам набытага прафесійнага, інтэлектуальнага і валявога багажу. Галоўная роля пры гэтым належыць майстру вытворчага навучання.

Магчыма таму, упершыню за апошняе дзесяцігоддзе, на базе Магілёўскага ПТВ №138 лёгкай прамысловасці прайшоў самы прыгожы конкурс прафесійнага майстэрства па прафесіі "Швачка; кравец", дзе ўдзельнікамі і канкурсантамі былі як навучэнцы ПТНУ, так і майстры вытворчага навучання. У конкурсе ўдзельнічалі прадстаўнікі шасці ПТНУ Магілёўскай вобласці — 12 навучэнцаў. Дух спаборніцтва захапіў усіх з першых хвілін конкурсу, з паказу "Візітных картак" каманд-удзельніц. Такой разнастайнасці вершаваных форм прадстаўлення сваіх прафесій, неардынарных і вытанчаных мадэляў адзення, выкананых навучэнцамі і майстрамі вытворчага навучання прафтэхвучылішч, слоў прывітання ад журы і гасцей Палац культуры ЗАТ "Вяснянка" не чуў і не бачыў даўно. Нездарма ж значную ролю сярод матываў імкнення да перамогі адыгрывае і імкненне да прыгажосці і элегантнасці.

Нялёгка ўдзельнікам конкурсу даводзілася на практычным туры, дзе па гатовым крoі, нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі і ўзоры вырабу неабходна было прадэманстраваць мадэль швейнага вырабу за пэўны адрэзак часу. Вось тут галоўнае значэнне мела эмацыянальнае перажыванне ад самога працэсу работы. Майстры вытворчага навучання і навучэнцы — удзельнікі конкурсу — падбадзёрвалі і эмацыянальна падтрымлівалі адзін аднаго, імкнучыся падтрымаць стан эмацыянальнага ўзбуджэння, узнёслы настрой. Без аб'ектыўнай ацэнкі, прызнання поспехаў канкурсанты не адчулі б у поўнай меры задавальнення, радасці, не ўсвядомілі б сацыяльнай значнасці выбранай прафесіі.

Тэарэтычны тур быў заключным. І ён яшчэ раз пацвердзіў, што для творчасці патрэбны веды. Веды — першасныя, творчасць — другасная. Пры гэтым "веданне" трэба разумець у шырокім сэнсе: веданне не толькі сваёй, але і сумежных прафесій, дасягненняў вытворчасці, тэхнікі, тэхналогіі галіны. Канкурсантам былі прапанаваны цікавыя тэставыя заданні, якія павінны былі вызначыць узровень засваення адукацыйнага матэрыялу па прафесіі, а таксама эфектыўнасць падрыхтоўкі навучэнцаў да нестандартнай, творчай дзейнасці.

На конкурсе, у складанай канкурэнтнай атмасферы паказалі сябе з годнасцю ўсе каманды ўдзельнікаў. Аднак яркія работы, якія і былі па рашэнні прафесійнага журы адзначаны прызавымі месцамі, мелі навучэнцы і майстры вытворчага навучання магілёўскага прафесійнага ліцэя №1, ПТВ №138 Магілёва, ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва Бабруйска. А каманднае першынство размеркавалася крыху інакш: першае месца заняў магілёўскі прафесійны ліцэй №1, на другім — ПТВ №138 лёгкай прамысловасці Магілёва, а трэцяе месца дасталася ПТВ №145 лёгкай прамысловасці Бабруйска.

Гэта яшчэ раз пацвярджае, што стымуляванне — працэс індывідуальны. Яго эфектыўнасць залежыць ад таго, наколькі знойдзеныя стымулы зарыентаваны на індывідуальна-псіхалагічныя асаблівасці ўдзельнікаў конкурсу. Было прыемна назіраць і радавацца разам з пераможцамі на цырымоніі закрыцця конкурсу пры ўручэнні ім дыпломаў і агульным фатаграфаванні. Міжволі ўспомніліся вядомыя словы Дэкаберці: "Працаваць — значыць тварыць, а творчасць — глыбокая і рэальная радасць, якую чалавек можа адчуць у гэтым жыцці".

**Таццяна АНУФРЫЕНКА,**
**намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце бабруйскага ПТВ №145 лёгкай прамысловасці.**

Навука і жыццё

# У модзе камізэлькі. Браніраваныя...

***Як сцвярджаюць тэарэтыкі моды, камізэлькі сапраўды цяпер папулярныя. Але мы хочам расказаць пра іншыя камізэлькі, якія, на жаль, "у модзе" заўсёды.***

У сусветнай практыцы асноўным элементам аснашчэння супрацоўнікаў спецпадраздзяленняў і праваахоўных органаў з'яўляюцца бронекамізэлькі, прызначаныя для абароны ад пісталетных куль. Важнейшы кампанент такіх камізэлек — высокатрывалая арамідная тканіна. Менавіта яна надае вырабу неабходны камфорт і абараняе чалавечае жыццё. Дзякуючы сваім унікальным уласцівасцям арамідная тканіна даўно ўвайшла ў арсенал матэрыялаў, што выкарыстоўваюцца адзіным вытворцам беларускіх бронекамізэлек — унітарным прадпрыемствам "Тэхнамаг".

Сучасныя падраздзяленні, прызначаныя для барацьбы з праціўнікам, узброеным больш сур'ёзнай зброяй, чым пісталет, валодаюць бронекамізэлькамі, якія маюць у сваім складзе разам з араміднымі пакетамі металічныя (керамічныя) элементы.

"Бранёй", ці ахоўнымі матэрыяламі для абароннай прамысловасці, займаюцца ў Фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з 1974 года. Першапачаткова праводзіліся даследаванні тытанавых сплаваў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу абароны лёгкай наземнай ваеннай тэхнікі, а таксама ў вытворчасці верталётаў і самалётаў. Матэрыялы для бронекамізэлек нашы вучоныя сталі распрацоўваць толькі ў 80-я гады, удзельнічаючы ў ажыццяўленні вялікай усесаюзнай праграмы.

З 1983 года на Беларусі пачалі выраблецца ахоўныя элементы для першых савецкіх бронекамізэлек, якія прыйшлі на змену тым, што перасталі адпавядаць сучасным патрабаванням з-за нізкіх балістычных характарыстык, вялізнай вагі і поўнай адсутнасці якой-небудзь камфортнасці ва ўмовах вядзення баявых дзеянняў. Новыя вырабы сталі больш надзейнымі пры нязменнай вазе і некаторым паляпшэнні камфортнасці. Апошняе бронекамізэльцы забяспечыла арамідная тканіна СВМ — сінтэтычны высакамодульны матэрыял.

Каб атрымаць канчатковую прадукцыю — бронекамізэльку, яе элементы праходзілі вялікі шлях. Ахоўныя слаі выраблялiся на Урале, кроіліся ў Адэсе, тэрмаапрацоўваліся ў Мінску. Потым загатоўкі праходзілі яшчэ адну тэрмаапрацоўку — ізноў у Адэсе — і адпраўляліся на Урал, у Залатавуст, дзе знаходзілася вялікая швейная фабрыка Мінабароны. Сваё "баявое хрышчэнне" першыя савецкія бронекамізэлькі прайшлі падчас баявых дзеянняў у Афганістане.

З распадам Савецкага Саюза цэнтралізаванае ваеннае забеспячэнне спынілася. У рэспубліцы неабходна было тэрмінова вырашаць звязаныя з гэтым праблемы. Таму ў 1992 годзе супрацоўнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута пры падтрымцы МУС Беларусі прыступілі да навуковых даследаванняў па бюджэтнай тэматыцы, прысвечанай распрацоўцы матэрыялаў для бронекамізэлек. Упраўленнем матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння МУС краіны быў зроблены заказ на гатовую прадукцыю. Так узнікла беларуская вытворчасць бронекамізэлек, першы выраб якіх выпушчаны ў канцы 1993 года.

На сённяшні дзень існуе ўжо больш за 20 разнавіднасцей і мадыфікацый беларускіх бронекамізэлек. Падзяляюцца яны пераважна па прызначэнні. Бронекамізэлькі для дыпламатаў і VIP-персон звычайна ўяўляюць сабой разнавіднасць камізэлькі, якая выглядае як неад'емная частка касцюма, адрозніваючыся ад звычайнай толькі вагой, таму што ўнутры змяшчае металічную пласціну таўшчынёй 3 мм, якая без цяжкасці затрымлівае кулю ад пісталета ТТ. Больш мяккай зроблена беласнежная падкашульная бронекамізэлька. Ахоўны колер і каўнер мае агульнавайсковая. Самая зручная і практычная, з рознымі дапаўненнямі ў выглядзе кішэнь і клапанаў — чорная бронекамізэлька спецназа.

Сёлета беларускімі вучонымі ў рамках Дзяржаўнай бюджэтнай праграмы "Тэхналогіі" пры падтрымцы МУС пачалася работа над кампазіцыяй для абароны ад халоднай зброі. Пра новую камізэльку, здольную супрацьстаяць не толькі кулі, але і клінку, якая сёння яшчэ канструіруецца, расказвае дырэктар "Тэхнамага", вядучы навуковы супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута НАНБ, кандыдат тэхнічных навук Аляксандр Сямёнавіч Дымоўскі.

— У свеце яшчэ не створана бронекамізэлька, здольная на сто працэнтаў абараніць не толькі ад кулі, але і ад нажа. Таму існуюць гранічна допушчальныя нормы паражэння (пераадолення задняй сценкі бронекамізэлькі) — так званага запрашкоднага дзеяння. У ЗША гэты параметр — 44 мм, у Еўропе — 30 мм, у Расіі — 25 мм. Нашы эканамічныя ўмовы дыктуюць крыху іншае стаўленне да цяжкай траўмы. Паводле статыстыкі, у ЗША паліцэйскі, на якога зроблены напад, аказваецца на аперацыйным стале ўжо праз 12 — 15 хвілін. І калі ён атрымлівае нажавое раненне, пры якім клінок увайшоў у цела на 44 мм (за выключэннем вобласці сэрца ці якога-небудзь буйнога сасуда), яго жыццё будзе выратавана. У нас жа і не такая сур'ёзная траўма можа стаць цяжкай, а часам і смяротнай, таму што няма гарантый, што паранены трапіць у бальніцу ў бліжэйшыя 30 хвілін. Таму на Беларусі перагледжаны допушчальныя нормы паражэння: максімальным з'яўляецца дэфармацыя тыльнай сценкі бронекамізэлькі не больш чым на 16 мм.

Асноўнае прызначэнне бронекамізэлькі — забяспечыць балістычную абарону чалавека. Эфектыўнасць прымянення бронекамізэлек агульнапрызнанае. Разам з тым, сур'ёзным паражальным фактарам, які ўяўляе пагрозу жыццю і здароўю людзей, з'яўляецца рэжуча-колючая зброя. Для пэўных падраздзяленняў такая пагроза больш небяспечная, чым магчымае балістычнае паражэнне.

У нашым інстытуце і створаным пры ім прадпрыемстве "Тэхнамаг" завершана распрацоўка прынцыпова новай кампазіцыі, якая дае магчымасць надзейна абараніць чалавека ад уздзеяння зброі з рэкорднымі дынамічнымі паказчыкамі, што могуць быць рэалізаваны на мяжы чалавечых магчымасцей.

Гэтая праблема ў сусветнай практыцы вырашаецца рознымі спосабамі, мае розныя крытэрыі ацэнкі ўзроўню абароны. Чым больш развітай з'яўляецца краіна, тым больш нізкія патрабаванні да надзейнасці такой абароны па пададзеных вышэй прычынах. Як аказалася, у падыходзе да распрацоўкі абароны ад колюча-рэжучай зброі ў нас свая спецыфіка. У людзей, фізічна дужых, сіла ўдару нажом нярэдка дасягае 40-45 Дж, хоць ва ўсім свеце прынята было лічыць яе роўнай 35 Дж. Такім чынам, бронекамізэлькі заходняга ўзору, якія паспяхова супрацьстаяць колюча-рэжучаму ўдару (з запрашкодным дзеяннем 27 мм), у нашых умовах абсалютна непрыдатныя. Максімальным для беларускіх праваахоўных органаў было прынята пранікненне клінка цераз заднюю сценку бронекамізэлькі на 5-7 мм. Толькі ў гэтым выпадку рану пацярпелага можна лічыць "драпінай", і жыццё яго будзе ў бяспецы. Таму нашы бронекамізэлькі хоць і цяжэйшыя за імпартныя аналагі, але здольныя рэальна захаваць чалавечае жыццё.

Пры распрацоўцы новай ахоўнай камізэлькі, здольнай супрацьстаяць удару клінка, мы сутыкнуліся з шэрагам цяжкасцей. Каб забяспечыць абарону (пры пранікненні на 27 мм), бронекамізэлька павінна мець 18 слаёў фірменнай араміднай тканіны з пакрыццём з керамікі. Калі зыходзіць з прынятых намі 5 мм пранікнення ў цела, то спатрэбіцца 40 слаёў такой тканіны. Гэта неверагодная вага і цана. На адзін выраб расходуецца каля 8 квадратных метраў тканіны, што па кошце прыблізна складае 120 долараў ЗША. Плюс яшчэ дарагая кераміка, якую не так проста звязаць з тканінай.

У нашай новай бронекамізэльцы ў якасці ўнутранай "начынкі" мы вырашылі выкарыстоўваць складаныя металічныя фрагменты. Злучаныя пэўным чынам, яны забяспечваюць гнуткасць і эластычнасць кампазіцыі. У гатовым выглядзе выраб будзе практычным, зручным і камфортным нават пры выкананні працяглых штатных аперацый.

Вучонымі сектара балістычных матэрыялаў і тэхнічных сродкаў нашага інстытута выканана ўжо шмат спецыяльных тэхнічных заданняў. Сёння, паралельна з распрацоўкай новай бронекамізэлькі, мы даследуем і шукаем больш танны і практычны матэрыял для вырабу беларускага варыянта ахоўных дэталяў спецадзення: фірменных налакотнікаў і нарукаўнікаў.

На заўтра мы не будуем далёкасяжных планаў, але хацелася б, каб на Беларусі, дзе так добра асвоена вытворчасць парашковых матэрыялаў і вырабаў з іх, была арганізавана вытворчасць бранявой керамікі...

**Сняжана МІХАЙЛОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКУ: дырэктар "Тэхнамага" кандыдат тэхнічных навук Аляксандр Дымоўскі дэманструе (на сабе) браніраваную камізэльку.

**Фота Зінаіды МІШУРА.**

